ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 34 (133) 8 - 14 верасьня 1995 г. Кошт 600 рублёў

УЛАДА ПАРУШАЕ ПРАВЫ ЛЮДЗЕЙ - ст. 2.

ДАРОГА Ў БЕЗДАНЬ. ДЗЕ ВЫЙСЬЦЕ? - ст. 3.

ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ГРЭБУЮЧЫ СЬВЕТЛАФОРАМІ

### ТАК ДЗЕЙНІЧАЕ ПРЭЗІДЭНТ ПРЫ КІРАВАНЬНІ ДЗЯРЖАВАЙ

**«Вайна пад коўдраю» - менавіта такую тактыку выбраў прэзідэнт у адносінах да Вярхоўнага Савету, які на гэтым тыдні, згодна Закону, сабраўся на чарговую сесію. Уладай рабілася ўсё магчымае і немагчымае, каб дэпутаты *на сесію не сабраліся*.**

Але сесія адкрыла сваю работу. Дэпутаты моўчкі праглынулі адсутнасьць фінансаваньня, пазбаўленьня дэпутацкай недатыкальнасьці і дыпламатычных пашпартоў. Нават тое, што без зацьверджаньня Вярхоўным Саветам безымянныя «завхозы» прымацавалі ў Авальнай зале герб, які нагадвае прычоску прэзідэнта, не выклікала супраціву.

І прэзідэнт замітусіўся... Убачыўшы, што інфармацыйная блакада не спрацоўвае, што палітычныя інтрыгі і правакацыі не прыносяць пажаданага плёну, што заканадаўчы караван дзелавіта і спакойна рушыць наперад, прэзідэнт пайшоў на беспрэцэдэнтны крок, адклікаўшы 10 сваіх законапраектаў. Сярод іх - зьмены ў падаткавае заканадаўства, хібы якога штодня кладуць эканоміку Беларусі на лапаткі.

Сапраўдным скандалам стала тое, што не адгукнуліся на запрашэньне парламанту даць справаздачу прэм'ер-міністр М.Чыгір і мірністр фінансаў П.Дзік. Сэнс іхняй адмовы - не дазволіў «усенароднаабраны». Выходзіць, можна па чатыры месяцы не плаціць рабочым зарплату, давесьці людзей да голаду, а патлумачыць навошта гэта робіцца няма ні ахвоты, ні загаду.

Учора кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Л.Сініцын у сваёй прамове даў дакладна зразумець, што Аляксандр Рыгоравіч нікога не дапусьціць да начальніцкага штурвала і ў сваёй дзейнасьці будзе кіравацца не заканадаўствам і Канстытуцыяй, а нейкімі дамовамі няведама з кім пра тое, што Вярхоўны Савет больш працаваць не павінен.

Шчыра кажучы, можна было б не зьвяртаць увагі на гэтую вазьню, якая ня мае нічога агульнага з інтарэсамі народу і дзяржавы. У такіх выпадках звычайна кажуць: «Абое рабое». Іншая справа, што на Захадзе, дзе 12 верасьня канчаткова павінна вырашыцца пытаньне аб выдзяленьні Беларусі другой часткі крэдыта STAND BY, якога так упарта дамагаецца збанкрутаваны ўрад Лукашэнкі, вельмі падазрона глядзяць на падобныя выкрунтасы. Яно й зразумела - аддаваць свае грошы ў рукі людзей, якія не жадаюць сябраваць з законам і цывілізаванымі традыцыямі парламантарызму, выглядае неразумным. У выпадку ж, калі Вярхоўны Савет прыме Заяву пра тое, што ён не кантралюе бюджэт (а гэта ўжо ясна нават без заявы), то справа атрыманьня гэтага крэдыту ды іншых інвестыцыяў выглядае зусім нерэальнай.

Усё нічога, але ж зімы ў нас надта халодныя. Без ацяпленьня і гарачай вады ў кватэрах будзе даволі цяжка жыць.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

## ВЯРТАНЬНЕ СЬВЯТЫНІ

**8 верасьня ля старажытнай Каложскай царквы на сваё месца будзе ўстаноўлены мемарыяльны знак «Пагоня на Грунвальд», прысьвечаны памяці ўсіх загінуўшых змагароў за Бацькаўшчыну.**

Нагадаем, што напярэдадні Дзядоў 1994 года, аналагічны знак быў сарваны з камня і скрадзены невядомымі да гэтага часу злодзеямі. За справу аднаўленьня мемарыяльнага помніка ўзяліся сябры БНФ, якія выдаткавалі свае сродкі. Новы знак зусім бескарысна зрабіў гарадзенскі мастак сп.Гладухоў. Урачыстасьці з нагоды адкрыцьця і асьвячэньня «Пагоні на Грунвальд» пачнуцца ў 18 гадзін.

**В.Р.**

## НЕМЕЦ СКАЗАЎ «БЮРАКРАТЫЗМУС»

**Павагаўшыся паміж «Лідсельмашам» і аналагічным расейскім прадпрыемствам з Каломны, прадстаўнікі нямецкай фірмы «Нівёнер» зноў прыступілі да спробы куплі акцый Лідскага завода.**

Праўда, пакуль немцы разглядалі расейскі варыянт, у заканадаўстве Беларусі нічога не зьмянілася, таму выдыхнуўшы скрушнае «бюракратызмус», яны зноў рушылі па калідорах беларускай улады.

**Язэп АБУХОВІЧ.**

## ДАЧАКАЛІСЯ

**Як паведамляла «Пагоня», да канца бягучага года ўсе тэлефоны Горадні будуць пераведзены на пачасовы ўлік платы за размовы па мясцовай тэлефоннай сетцы.**

З 11 жніўня кожны гарадзенец-уладальнік тэлефона, нумар якога пачынаецца на лічбу «6», за кожную хвіліну размовы па гораду плаціць 30 рублёў. І роўна праз месяц такі ж лёс чакае абанентаў, тэлефоны якіх уключаны ў АТС-5.

Нагадаем, што захоўваецца і абанементная плата за карыстаньне тэлефонам.

**А.ДУК.**

## ЯК «РЫТМУ» ЗЬБІЛІ РЫТМ



**Непрадуманае рашэньне беларускага ўраду аб уводзе транзітнага падатку істотна адбілася на нашай эканоміцы і ня толькі на ёй. Некаторыя эўрапейскія краіны абмежавалі ў адказ уезд на сваю тэрыторыю беларускіх транспартных сродкаў. Днямі ахвярамі гэтых рашэньняў сталі хакеісткі гарадзенскага "Рытму".**

У мінулым нумары газеты мы паведамлялі, што гарадзенскі клуб па хакею на траве «Рытм» накіраваўся ў Італію для ўдзелу ў прэстыжным міжнародным турніры. Справа, аднак, скончылася канфузам.

(Заканчэньне на 8-й старонке.)



## «КРУГЛЫ СТОЛ» ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

**30-31 жніўня ў Менску ў штаб-кватэры Беларускага Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ адбыўся «круглы стол» на тэму «Прававыя асновы стварэньня і функцыянаваньня грамадзкіх арганізацый на Беларусі». Яго арганізавалі Фонд імя Л.Сапегі і Агенцтва міжнароднага разьвіцьця ЗША (Фонд «Эўразія»).**

У «круглым стале» прынялі ўдзел каля 40 прадстаўнікоў недзяржаўных грамадзкіх арганізацый з усіх рэгіёнаў краіны. Супрацоўнікі і эксьперты Фонда імя Л.Сапегі азнаёмілі прысутных з роляй грамадзкіх арганізацый у станаўленьні і функцыянаваньні грамадзянскага грамадзтва, заканадаўствам Беларусі аб грамадзкіх арганізацыях, патрабаваньнямі да афармленьня дакумантаў для рэгістрацыі грамадзкіх арганізацый. Акрамя таго, увага была засяроджана на патрабаваньнях міжнародных фондаў да заявак на атрыманьне грантаў грамадзкімі арганізацыямі, роляй «грамадзянскіх ініцыятыў» у сацыяльна-эканамічным разьвіцьці ЗША, некаторых іншых пытаньнях стварэньня і дзейнасьці грамадзкіх арганізацый.

Удзельнікі «круглага стала» у сваіх выступах спыніліся на праблемах дзейнасьці недзяржаўных грамадзкіх арганізацый на Беларусі. У прыватнасьці адзначана, што сацыяльна-палітычная сітуацыя, якая склалася ў краіне, аўтарытарныя тэндэнцыі ў палітыцы прэзідэнта і яго структур, ціск на свабодныя сродкі масавай інфармацыі прыводзяць да сацыяльнай пасіўнасьці насельніцтва. А гэта ўскладняе дзейнасьць грамадзкіх арганізацый. Неадпрацаванасьць некаторых форм беларускага заканадаўства, якія ўскладняюць працэдуру рэгістрацыі, адсутнасьць ільготнага падаткаабкладаньня ў адносінах да непрыбытковых грамадзкіх арганізацый таксама стварае цяжкасьці ў функцыянаваньні «трэцяга сектара».

Удзельнікі «круглага стала» выказаліся за стварэньне рэспубліканскага каардынацыйнага цэнтра недзяржаўных грамадзкіх арганізацый. Ён бы мог кансультаваць арганізацыі па прававых, фінансавых і іншых пытаньнях, валодаў бы банкам інфармацыі, неабходнай для прадстаўнікоў «трэцяга сектара» на Беларусі.

Мяркуецца, што Фонд імя Л.Сапегі пры падтрымцы Фонда «Эўразія» мяркуе працягнуць працу з недзяржаўнымі грамадзкімі арганізацыямі ў рамках праграмы «Грамадзянскае грамадзтва».

**Ул.інф.**

ГРАМАДЗТВА

# НЯ ДАЙЦЕ СЯБЕ ПАДМАНУЦЬ!

## РОЗДУМ АБ МІНУЛЫХ ВЫБАРАХ

**Углядаюся ў аблічча знаёмых і незнаёмых мне людзей. Кожны з іх зрабіў шмат, каб найбольш спадабацца выбаршчыкам, і гэтым самым вырашыць спрэчку на сваю карысьць. Але аднаму чалавеку імпануе ўсьмешка кандыдата ў дэпутаты, як сьведчаньне адкрытасьці і шчырасьці, другога, наадварот, вабіць сур'ёзны воблік будучага абраньніка, як прыкмета цьвёрдасьці намераў, непахіснасьці пазіцыі. Трэці робіць выбар, зыходзячы з комплекснасьці - узросту, адукацыі, нацыянальнасьці, партыйнай прыналежнасьці, стаўленьня да цяперашняга рэжыму на Беларусі...**

Паспрабуй, дагадзі! Як кажуць, для ўсіх мілы ня будзеш. Дый, відаць, і ня трэба. Хаця псіхалагічны элемент, безумоўна, трэба выкарыстоўваць. Бо выбары патрабуюць навуковага падыходу, цьвярозага разьліку, веданьня метадаў узьдзеяньня на людзей.

Аб гэтым, і ня толькі, думалі, магчыма, выбаршчыкі, прыглядаючыся да лістовак, улётак, заклікаў, якімі шчыльна былі ў траўні-чэрвені абклееныя аўтобусна-тралейбусныя прыпынкі, усялякія стэнды і проста слупы. Шмат друкаванай перадвыбарнай прадукцыі было апушчана ў паштовыя скрынкі.

Іншыя кандыдаты цураліся сваіх канкурэнтаў і імкнуліся праводзіць сустрэчы паўпадпольна, уважлівыа сачылі, каб, крый Божа, хоць не дазналіся пра мерапрыемства апаненты, у першую чаргу з Беларускага Народнага Фронту. Такія сумненьні мелі пад сабой падставы. Выбаршчыкі надзвычайна цёпла ставіліся да апошніх. Пасьля такіх размоў вылучэнцам шэрагу партый і грамадзкіх арганізацый заставалася толькі разводзіць рукамі. Аналіз галасаваньня па выбарчых участках яскрава сьведчыць аб перавазе народнафронтаўцаў. Перадусім, так было ў Горадні.

Кандыдатаў ад БНФ вылучалі часьцяком пікеты каля месцаў, дзе зьбіраюцца людзі. Бел-чырвона-белы сьцяг, плакаты, гарачыя спрэчкі -ужо здалёк прыцягвалі ўвагу прахожых. Гэта была візітоўка сяброў Народнага Фронту. Кандыдаты ад камуністаў, аграрнікаў, патрыятычнага руху ды інш. не выкарыстоўкалі гэтага метаду. І выбаршчыкі заўважылі гэта. Відаць, сьцяг нацыянальны не да спадобы «товарищам и господам». А пад чырвоным выйсьці не адважыліся. Што ж, пабачым - ці будуць выбаршчыкі імкнуцца пад чырвона-зялёныя, камуністычна-мусульманскія. І праваслаўныя, і каталіцкія вернікі ня клюнуць на такую прыманку.

Цяпер час працуе на кандыдатаў ад Беларускага Народнага Фронту. Прайшоў угар прапагандысцкіх шматмільярдных шоў за дзяржаўны кошт. Ветэраны і ўдзельнікі вайны атрымалі свае падарункі, прайшліся дастойнымі жалю калонамі па вуліцах гарадоў. Арганізатары задаволена пацёрлі рукі: справа зроблена, юбілеі закончаны. Састарэлыя змагары зноў вярнуліся ў свае кватэры і насьцярожана чакаюць чарговых крокаў улад, якія думаюць-гадаюць, як бы ўрваць з мізэрных пеньсій учарашніх герояў тысячу-другую для папаўненьня змарнелага бюджэту. Вось табе і заслужылі! Вось табе і словы пашаны, клятвы пра вечны клопат!..

Дарэчы, іншыя кандыдаты ў дэпутаты розных узроўняў таксама штучна спрычыніліся да ўзвышэньня свайго «я» перад ветэранамі. Уручалі падарункі і пры гэтым не забывалі нагадаць дзе будуць яны балатавацца. Ну, за казённы кошт чаму і не памецэнацтваваць? Больш сувеніраў няма. А штодзённы клопат хутка адбівае памяць і былую ўдзячнасьць.

Пакуль кандыдаты ад БНФ ішлі да людзей, іх канкурэнты працавалі інакш. Хто-ніхто абходжваў членаў выбарчых камісій. Пасьля пры галасаваньні былі выпадкі, калі на адныя рукі выдавалі стос бюлетэняў, вялася прамая агітацыя супраць найбольш сур'ёзных канкурэнтаў. І такія факты зарэгістраваны. Як і тое, што многія лістоўкі былі надрукаваны куды большымі тыражамі, чым гэта дазвалялі сродкі, выдзеленыя дзяржавай. Знаходзіліся спонсары і прыхільнікі, якія валодаюць мінідрукарнямі. Праўда, трэба быць высокай службовай асобай прэзідэнцкай вертыкалі, каб такія друкарні гасьцінна адчынілі перад табой надзейныя засоўкі. Адсюль і пракламацыі праз дзень з новым тэкстам. Адсюль і тыя камуністычныя паперкі, дзе заклікалася і паказвалася, як галасаваць на рэферэндуме.

Дый хто на гэтыя парушэньні зважаў! Вось каб фронтавец парушыў, дык усе «сумленныя» кандыдаты дружна накінуліся б з патрабаваньнямі пазбавіць рэгістрацыі.

Да восеньскіх выбараў ня так ужо і шмат часу. Але і дагэтуль не падрыхтаваны абяцаныя стэнды для разьмяшчэньня агітацыйных матэрыялаў. А стэндаў гэтых пяць-шэсьць, што зусім мала, напрыклад, для выбарчай акругі з 30-цю тысячамі выбаршчыкаў. Магчыма, колішнія пралікі будуць улічаны. І Горадня нарэшце абярэ сваіх прадстаўнікоў у новы склад Вярхоўнага Савету.

**В.ЗАДАЛЯ,**
**былы кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі па Гарадзенскай-Дзяржынскай выбарчай акрузе N 123.**

# РАДА БЕЛАРУСКІХ ГАРАДОЎ. БЫЦЬ ЦІ НЕ?




**Сёньня ў Беларусі штучна ствараецца думка аб тым, што толькі адзін чалавек у краіне здольны станоўча вырашыць усе вострыя праблемы нашага жыцьця. Прэзідэнт скасоўвае недатыкальнасьць дэпутатаў, забараняе прафсаюзы, стварае па сябе «вертыкаль», якая падмінае пад сябе астатнія органы ўлады і г.д.**

Пры гэтым сьвядома дыскрэдытуецца сама ідэя існаваньня заканадаўчых і судзебных органаў улады, улады на месцах. Між тым, менавіта мясцовыя ўлады могуць і павінны стаць асновай пабудовы дэмакратычнага грамадзтва, у якім кожны чалавек будзе ўсьведамляць сваю паўнавартаснасьць, а гэта значыць - здольнасьць рэальна ўплываць на жыцьцё сваіх вёскі, раёну, горада. Аднак у Беларусі да гэтага часу не створана прававая прастора, здольная забясьпечыць дзейнасьць мясцовага самакіраваньня.

У такой сітуацыіі надзвычай карыснай выглядае справа стварэньня ў нашай краіне Рады беларускіх гарадоў. Адной з першых акцый аргкамітэта Рады стала сумеснае правядзеньне з Фондам імя Льва Сапегі семінара «Прынцыпы функцыянаваньня асацыяцый мясцовых органаў улады», які прайшоў 23-24 жніўня ў Наваполацку. У семінары бралі ўдзел кіраўнікі шэрагу гарадзкіх саветаў і дэпутаты мясцовых органаў улады Беларусі, эксперты Фонду - навуковыя супрацоўнікі акадэмічных і выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў. У семінары ўдзельнічалі госьці з Масквы і Смаленску - прадстаўнікі Саюзу расейскіх гарадоў. Створаны ў 1991 годзе расейскі Саюз аб'ядноўвае сёньня 90 гарадоў - цэнтраў нацыянальных і рэгіянальных утварэньняў з агульным насельніцтвам больш 53 мільёнаў чалавек. Асноўнымі мэтамі Саюзу зьяўляюцца садзеяньне стварэньню спрыяльных умоваў для сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця гарадоў; каардынацыя іх сумеснай дзейнасьці, распаўсюджваньне станоўчага айчыннага і замежнага досьведу і г.д. За чатыры гады існаваньня СРГ зарэкамендаваў сябе, як арганізацыя, здольная істотна палепшыць сацыяльна-эканамічныя, бытавыя, культурныя ўмовы жыцьця і дзейнасьці гарадоў.

Пра ўсё гэта распавялі загадчык секцыі прыватызацыі і кіраваньня камунальнай уласнасьцю Выканаўчай дырэкцыі Саюзу расейскіх гарадоў сп.Кубліцкі і намесьнік Галавы адміністрацыі Смаленска сп.Коранеў.

На семінары разглядаліся таксама пытаньні ролі асацыяцый мясцовых органаў улады ў прадстаўленьні інтарэсаў самакіраваньня ва ўзаемаадносінах з органамі дзяржаўнай улады, узаемадзеяньне гарадоў у вырашэньні агульных для органаў мясцовай улады пытаньняў. Было вырашана працягваць супрацоўніцтва паміж Саюзам расейскіх гарадоў і беларускімі арганізацыямі мясцовых органаў улады, а таксама Фондам імя Льва Сапегі.

У бліжэйшы час аргкамітэт Рады беларускіх гарадоў зьбіраецца падаць дакуманты для рэгістрацыі арганізацыі ў Міністэрства юстыцыі.

**В.РУДНІК,**
**сябра фонду імя Л.Сапегі**

# ДАРОГА Ў БЕЗДАНЬ

**Уздоўж чаргі аўтамабіляў, што цягнецца колькі кіламетраў, ідзе чалавек. Ён ласкава ўсьміхаецца ўсім сустрэчным, якія глядзяць на яго са зьдзіўленьнем. Кім лічаць яго заможныя бізнэсмэны, што едуць за мяжу? Жабраком, які зьбірае бутэлькі? Ці таемным агентам з мытні?**

Кім бы яго не лічылі, ён мінае чаргу і крочыць да памежнай беларускай вёсачкі. Не, гэты чалавек не ўзмацняе сваё здароўе па сістэме народных лекараў. Ён не захапляецца спартыўнай хадзьбой. Ён -настаўнік. Ён ідзе на працу. Ён ня можа карыстацца дзяржаўным аўтобусам: гэта яму не па кішэні. Чаму?

Давайце падлічым: кошт двух білетаў - 18 тысяч. Дваццаць працадзён. Вынік - 360 тысяч, заробак - 600 тысяч. Больш паловы атрыманых ад дзяржавы грошай аддаць той самай дзяржаве? За што? Не. Лепш ён ад чыгункі пройдзе 8 кіламетраў пешшу... Чалавек гэты будзе распавядаць дзецям пра перамогу беларусаў у Грунвальдскай бітве, пра свайго дзеда партызана, пра бацьку-чарнобыльца. Ён будзе амаль шчыра ўсхваляць сёньняшняе жыцьцё і таемна пазіраць за акенца, дзе па шашы будуць няспынна рухацца легкавікі ягоных суайчыньнікаў. У канцы дня ён будзе зайздросьціць сваім калегам-жанчынам, якіх пасьля ледзь не гадзіннага «галасаваньня» пад ветрам, дажджом альбо сьнегам, падвязе да горада добры незнаёмец. Чырвань жаночых твараў не заўважаецца праз вакенца. Чалавек прачытае у газеце, што навучальны год пачынаецца з недахопу педагагічных кадраў, асабліва ў далёкіх вёсках...

Ці дзіўна гэта? Зусім не. Але яму трэба ісьці далей. На праязны білет ад дзяржавы ён ужо даўно не спадзяецца, а ісьці трэба. Куды ён ідзе? Дзе выйсьце?

**Пятро СЯМІНСКІ,**
**настаўнік Падліпскай СШ Гарадзенскага раёну.**

# ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ

**3 верасьня ў лідзкім Доме культуры намесьнік старшыні гарвыканкаму М.М.Чарнышоў урачыста адкрыў тыдзень беларускага пісьменства і друку.**



*Ля помніка Ф.Скарыны.*

Затым прысутных вітаў цудоўнымі песьнямі ансамбль беларускай народнай музыкі «Калі ласка» пад кіраўніцтвам Кастуся Сьцяпанава. Не змаўкалі апладысменты пасьля выступаў салістаў Іны Трацяк і Уладзіміра Некрашэвіча. Пасьля канцэрту прадстаўнікі грамадзкасьці, гарадзкога аддзела культуры, Беларускага Народнага Фронту і Таварыства беларускай мовы пад бел-чырвона-белымі сьцягамі рушылі да помніка нашаму славутаму першадрукару Францыску Скарыну, дзе адбылося ўскладаньне кветак. Ля помніка слова трымаў старшыня Лідзкай рады БНФ Станіслаў Суднік (на здымку), чытаў вершы паэт Леапольд Пыркс.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**
**Фота М.БУРАЧЭЎСКАГА.**

# КАТЛОЎ, СЯМЁНАЎ... ЛІКВІДАТАРЫ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

**У абставінах павышанай таемнасьці праводзіліся напярэдадні новага навучальнага года бацькоўскія сходы першых класаў у некаторых школах г.Ліды, за сямю замкамі захоўваліся заявы бацькоў.**

Так, 30 жніўня дырэктар лідзкай СШ N 3 Віктар Катлоў не дапусьціў на бацькоўскі сход карэспандэнта газеты «Пагоня». З гэтай нагоды мы ня можам даць аб'ектыўную інфармацыю пра тое, што і як там адбывалася. Можам толькі давесьці, што абодва першыя класы гэтай школы будуць расейскамоўныя.

Не дазволіў пазнаёміцца з заявамі бацькоў прадстаўнікам ТБМ імя Ф.Скарыны і дырэктар СШ N 10 спадар Сямёнаў. У выніку, у гэтай школе з чатырох першых класаў тры расейскамоўныя і адзін - польскамоўны.

Цікава, як такія паводзіны шаноўных дырэктараў стасуюцца са свабодным волявыяўленьнем бацькоў, бо народная мудрасьць не памыляецца, калі кажа, што «калі хаваеш, дык ёсьць што хаваць». Пэўна ёсьць што хаваць і нашым новаспечаным русіфікатарам: Катлову і Сямёнаву.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## АДНЫ БАЛЯВАЛІ, ДРУГІЯ ПАЛЯВАЛІ

**Непрыемнасьці не абыйшлі бокам перадавую гаспадарку Драгічынскага раёну Берасьцейшчыны - саўгас «Заказельскі». У адну з начэй больш пяцідзесяці галоў авец, што знаходзіліся ва ўрочышчы Галік, сталі здабыткам ваўкоў. Сталаваньне лясных драпежнікаў удалося на славу.**

Само сабою, адказнасьць маральную і матэрыяльную, якая выражаецца ў некалькіх мільёнах рублёў, зараз прыйдзецца несьці дуэту пастухоў. Як падае газета «Берасьцейскі кур'ер», існуе версія, што ў няшчасную ноч гэтая парачка замест аховы статку бавіла час у хаце.

## СПАЧАТКУ БЫЛІ ГРОШЫ

**Яшчэ ўлетку прыступілі будаўнікі «Зэльваэнэргабуда» да ўзьвядзеньня новага трохпавярховага будынку Ашчаднага банка ў цэнтры Зэльвы.**

Карацей кажучы, будаўнікоў пераманілі з аб'екту сучаснай райпалiклінікі, дзе за зьмену плануецца аказваць дапамогу амаль паўмільёну пацыентаў. Будаўнічыя работы былі прыпынены на сёмым месяцы з 27 плануемых на ўвод аб'ектаў з-за адсутнасьці фінансаваньня.

А фінансісты справу сваю ведаюць добра, і адразу ў якасьці папярэдняй аплаты на будоўлю патрэбнага ім будынку пералічылі падрадчыкам 500 мільёнаў беларускіх рублёў.

Цяпер толькі, у чацьвёртым квартале г.г., пасьля ўзьвядзеньня «каробкі» банка па вуліцы Перамогі, будаўнікі зноў мяркуюць узяцца будаваць райпаліклініку.

А што, калі хто-небудзь зноў пасунецца з грашыма?

**Пятро ЖЭБРАК.**

## СЬПІРЫТУС БЫЎ З-ПАД КРЫСА. ЦЯПЕР БУДЗЕ «З ПАДПОЛЬЛЯ»?

**Няўцешная навіна для тых, хто паставіў у сваім чаўночным бізнэсе на цыгарэты ды сьпіртовыя напоі.**

Берасьцейскім гарвыканкамам прынята рашэньне аб забароне гандлю сьпіртным на чыгуначным вакзале і блізкай да яго тэрыторыі. Проста цяпер зьдзелкі часта адбываюцца па прынцыпу «ты мне міргні, а я скажу, што ў мяне ёсьць». Як ні круці, а вакзал, ды яшчэ на беларуска-польскім памежжы, - надта выгоднае для гэтага месца.

**ЯГОРЫК.**

## З НАГОДЫ

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

*Яко вся християнская царства приидоша в конец и снидошася во едино царство нашего государя, по пророческим книгам то есть Российское царство: два убо Рима падоша, а третий стоит, а четвёртому не быти...*

**Гэтыя словы, стаўшыя дэвізам зьнешняй палітыкі Масквы з часоў сярэднявечча і фактычна да нашых дзён, даюць магчымасьць любому аматару гісторыі зразумець прычыны тых крывавых старонак жыцьця сярэднявечнага ўсходнеславянскага сьвету, рэха якіх чуваць і сёньня ў разважаньнях інтэр-палітыкаў пра распальваньне міжнацыянальнай *варожасьці ды ва ўсьведамленьні* нармальнымі людзьмі велічнасьці гісторыі сваёй краіны.**

З часоў сівой мінуўшчыны нашаму народу прыходзілася весьці цяжкія войны з захопнікамі з Захаду і Усходу, якія імкнуліся авалодаць беларускімі землямі. Шматлікія паходы крыжакоў, набегі татарскіх ордаў у XIII-XIV стагоддзях зьмяніліся ў к.XV стагоддзя рэгулярнай навалай з боку ўсходняга суседа - Маскоўскага княства. Вялікі князь Маскоўскі Іван III, які княжыў з 1462 да 1505 года, абвясьціў сябе гаспадаром усяе Русі - гэта значыць усіх усходнеславянскіх земляў, якія ўваходзілі раней у склад Кіеўскай Русі. Між тым, большая частка тых земляў, у тым ліку і Кіеў, уваходзілі ў той час у склад Вялікага княства Літоўскага, а насельніцтва старажытнай Літвы, мяжа якой пачыналася ў 100 вёрстах ад Масквы, за Мажайскам, само лічыла сябе рускім. Ужо ў XIII ст. зьявіўся тытул Вялікі князь Літоўскі, Жамойцкі і Рускі.



*Маскоўскі князь Васіль III. Менавіта яго войскі былі разьбітыя пад Воршай.*

Такім чынам, на Русі, г.зн. на ўсходнеславянскіх землях, зьявіліся адразу два гаспадары. Першыя сутыкненьні паміж дзьвюма дзяржавамі пачаліся яшчэ ў часы Івана Каліты і Гедыміна. Так, у 1339 годзе палкі Івана Каліты з дапамогай мангола-татараў напалі на Смаленск, які прызнаў сябе васалам ВКЛ.

Сутыкненьні яшчэ больш пашырыліся пры нашчадках Каліты і Гедыміна - Дзьмітрыі Данскім і Альгердзе. Альгерд здолеў аб'яднаць у складзе ВКЛ большую частку гістарычнай тэрыторыі Кіеўскай Русі. У стратэгічных мэтах ён бярэ шлюб з цьвярской княжной Ульянай. Цьвер тады, нагадаю, была самым небясьпечным сапернікам Масквы ў справе зьбіраньня ўласнарускіх земляў. У 1368, 1371 і 1372 годзе беларускапольска-літоўскія войскі на чале з Альгердам зьдзейсьнілі тры паходы на Маскву, якія, аднак, посьпеху не прынесьлі, больш таго, Альгерд прызнаў правa Масквы на Уладзімір, што фактычна азначала падзел Русі. З гэтага часу наступальная ініцыятыва перайшла да Масквы.

У 1462 годзе Іван III ўзяў шлюб з Софьяй Палеолаг, пляменьніцай апошняга візантыйскага імператара Канстаньціна. Візантыйскі двухгаловы арол становіцца гербам Масковіі, а сама Масква ўскладае на сябе ролю трэцяй і апошняй пасьля Рыму і Канстанцінопаля сталіцы хрысьціянскага сьвету.

Тэрыторыя Украіны і Беларусі абвяшчаюцца «дединой і отчиной» вялікіх князёў маскоўскіх.

У 1474 годзе Масква заключае дамову з ханам Менглі-Гірэем і орды іншаверцаў-крымчакоў пачынаюць набегі на беларускія і ўкраінскія землі, на якіх жылі браты маскавітаў па веры.

Пазбавіўшыся ў 1480 годзе фармальнай залежнасьці ад татарскага ярма, праз пяць гадоў Масква захоплівае Цьвер і з гэтага часу накірункам нумар адзін ў захопніцкай палітыцы становяцца землі Вялікага княства. У ліпені 1492 года памёр вялікі князь літоўскі і кароль польскі Казімір. Адразу ж на беларускія землі рушылі маскоўскія палкі, якія на працягу дзьвух гадоў рабавалі і вывозілі ў палон насельніцтва ВКЛ. Канфлікт скончыўся дынастычным мірам. Вялікі князь Аляксандр браў шлюб з дачкой Івана III Аленай і аддаваў Вязьму. Аднак ужо праз шэсьць гадоў распачалася новая вайна, якая доўжылася тры гады. Пад час яе ў бітве пры Ведрашы маскавіты ўпершыню перамаглі ў адкрытай бітве войска ВКЛ. Ды і ці магло быць інакш, калі супраць 40 тысячаў маскавітаў і татар вялікі гетман Канстанцін Астрожскі вывеў 3500 вершнікаў? У выніку Астрожскі трапіў у палон, а да Масквы адыйшлі Чарнігаў, Бранск, Гомель, Мцэнск ды яшчэ 15 гарадоў і 70 валасьцей.

У 1506-1508 годзе разгарэлася новая вайна, найбольш адметнымі падзеямі пад час якой сталі сьмерць вялікага князя Аляксандра, уцёкі з маскоўскага палону гетмана Астрожскага ды паўстаньне князя Глінскага супраць новага ўладара Літвы Жыгімонта. Аднак на гэты раз 50-тысячнае войска расейцаў не рызыкнула ўступіць у бой з 16-цю тысячамі жаўнераў Астрожскага і вайна скончылася чарговым замірэньнем. Аднак часовасьць яго ўсьвядомілі абодва бакі. У 1512 годзе Масква заключае дамову з крыжакамі і Сьвяшчэннай Рымскай імперыяй аб сумеснай вайне супраць ВКЛ і Польшчы. У выпадку перамогі хаўрусьнікі дзялілі б між сабой землі гэтых дзяржаваў. Вось як апісаў гэтыя падзеі іх сучасьнік аўстрыйскі дыпламат Сігізмунд Герберштэйн, які адным з першых распавёў Эўропе аб норавах і жыцьці Масковіі.

«...Хоць пасьля сьмерці Аляксандра ў Васіля (маскоўскага князя (аўт.)) не было ніякай нагоды да вайны з Жыгімонтам, каралём польскім і вялікім князем літоўскім, ён, бачачы, што кароль схільны больш да міру, чым да вайны і што літоўцы таксама не жадаюць ваяваць, усё ж знайшоў нагоду да вайны. Васіль пачаў гаварыць, што сястра яго, удава Аляксандра Алена, зусім не сустракае з іх боку належнай яе сану пашаны. Акрамя таго, ён абвінаваціў Жыгімонта ў тым, што той быццам падняў супраць Масквы татар. Таму ён абвясьціў вайну і, падвёўшы пушкі, асадзіў Смаленск, хоць ніяк ня мог узяць яго. Між тым, Міхал Глінскі, які некалі пры Аляксандры меў вялікую ўладу, зьбег да вялікага князя маскоўскага. Калі Васіль зноў абклаў Смаленск цяжкай аблогай, Глінскі шляхам перамоваў, дакладней подкупу, авалодаў горадам і ўзяў з сабой у Масковію ўсіх ваеннаначальнікаў за выключэньнем смаленскага ваяводы Юрыя Салагуба, які зьвярнуўся да свайго гаспадара (Жыгімонта (аўт.)), ведаючы, што не вінаваты ў здрадзе. Астатнія ж афіцэры, падкупленыя грашыма і падарункамі, не рызыкнулі вярнуцца ў Літву, гаворачы: «Калі мы адправімся ў Літву, то нас могуць хоць дзе і абрабаваць і забіць». Усе перайшоўшыя на рускую службу жаўнеры адразу ж атрымалі па 2 рублі і лунскому сукну.

Узганарыўшыся ад гэтай перамогі, Васіль загадаў свайму войску не марудзячы рухацца ў глыб Літвы, а сам застаўся пад Смаленскам. Калі маскавіты захапілі некалькі здаўшыхся ім бліжэйшых гарадоў і крэпасьцяў, тады толькі Жыгімонт сабраў войска і паслаў яго на дапамогу абложаным у Смаленску, але было ўжо занадта позна. Дазнаўшыся, што маскоўскае войска рушыць на Літву, Жыгімонт прыймчаў у Барысаў і адправіў адтуль сваё войска, на чале з Канстаньцінам Астрожскім. Калі гэты апошні падыйшоў да Барысфена (Дняпра (аўт.)) ля Воршы, горада ў 24 нямецкіх мілях ад Смаленска, то там ужо стаяла войска маскавітаў колькасьцю прыблізна ў 80 тысяч чалавек, тады як літоўскае не пераважала 35 тысячаў, хоць і мела некалькі гармат. 8 верасьня 1514 года Канстаньцін, навёўшы мост, пераправіў пяхоту праз Барысфен ля Воршы; коньніца ж пераправілася па вузкаму броду пад самай крэпасьцю Ворша. Калі палова войска перайшла Барысфен, аб гэтым данесьлі Івану Чэляднiну, якому маскавіт даверыў галоўнае начальства, параіўшы напасьці на гэтую частку войска і зьнішчыць яе. Але той адказаў на гэта: «Калі мы зьнішчым гэтую частку войска, то застанецца яшчэ другая частка, з якой, верагодна, змогуць злучыцца іншыя войскі, так што нам будзе пагражаць яшчэ большая небясьпека. Пачакаем да таго часу, пакуль не пераправіцца ўсё войска, бо нашы сілы настолькі вялікія, што, без сумневу, мы без асаблівых намаганьняў зможам ці зьмяць гэтае войска, ці абкружыць яго і гнаць, як быдла да самай Масквы. У рэшце рэшт нам не застаецца нічога іншага, як заняць усю Літву».

Між тым літоўскае войска, узмоцненае палякамі і іншаземнымі жаўнерамі, набліжалася, і калі яно прасунулася на 4 мілі ад Воршы, абодва войскі спыніліся. Абодва крылы маскавітаў адыйшлі некалькі далей ад астатняга войска, каб абкружыць ворага з тылу: галоўныя ж сілы стаялі ў баявых парадках пасярэдзіне, а некаторыя былі высунуты наперад, каб выклікаць ворага на бой. Насупраць у доўгім шыхце размясьціліся разнастайныя войскі літоўцаў, бо кожнае княства прыслала сваё войска з уласным кіраўніком, так што ў шыхце кожнаму адводзілася сваё месца. Нарэшце, пастроіўшы перадавыя атрады, маскавіты затрубілі наступ і першымі рушылі на літоўцаў. Тыя, ніколькі не спалохаўшыся, сталі цьвёрда і адбілі іх. Але хутка да маскавітаў былі пасланы падмацаваньні, якія ў сваю чаргу зьвярнулі літоўцаў у бегства. Такім чынам некалькі разоў то той, то іншы бок, атрымаўшы падмацаваньні перамагаў праціўніка. Нарэшце бітва разгарэлася з найвялікшай сілай. Літоўцы, адмыслова адступіўшы ад таго месца, дзе ў іх былі схаваныя гарматы, накіравалі іх супраць насядаўшых маскавітаў і паразілі іх заднія шэрагі, выстраеныя ў рэзерве, але занадта зкучаныя, прывялі іх у мітусьню і разьсеялі. Такі нечаканы баявы прыём прывёў маскавітаў у жах, бо яны лічылі, што ў небясьпецы знаходзіцца толькі першы шэраг, які б'ецца з ворагам. Прыйшоўшы ў сумеціцу і палічыўшы, што першыя іх шэрагі ўжо разьбітыя, яны абвярнуліся ў бегства. Літоўцы, ~~разьвярнуўшыся, рынулі ўсе свае сілы~~, праследавалі іх, гналі і забівалі. Толькі ночы і лясы паклалі канец гэтаму зьбіеньню. Паміж Воршай і Дуброўнай, якія знаходзяцца адзін ад аднаго на 4 нямецкія мілі, ёсьць рэчка Крапіўна. Ратуючыся бегствам па яе небясьпечных і крутых берагах, маскавіты патапіліся ў такой колькасьці, што запрудзілі плынь ракі. У гэтай бітве былі ўзяты ў палон усе ваенаначальнікі маскавітаў. Галоўнейшым з іх Канстаньцін учыніў на наступны дзень самы ўрачысты прыём, а затым адаслаў іх да караля, які разьмеркаваў іх па літоўскіх крэпасьцях. Некаторыя з іх вярнуліся ў Масковію толькі ў 1552 годзе, частка была адаслана да венецыянскага дожы і папы рымскага, частка была адаслана ў Венгрыю да Яныша Запальяі.

Іван Чэляднін з двума іншымі знатнымі князямі ўжо пажылых гадоў утрымоўваўся ў Вільні ў жалезных ланцугах...» Герберштэйн піша, што наведаў іх з дазволу Жыгімонта і нават пазычыў ім 20 гульдэнаў у суцяшэньне.

А ў той час, даведаўшыся аб паразе сваіх, Васіль адразу ж пакінуў Смаленск і зьбег у Маскву, а каб літоўцам не дасталася крэпасьць Дарагабуж, загадаў спаліць яе. Літоўскае войска накіравалася прама на Смаленск, але ўзяць яго не змагло, бо маскавіт паставіў там гарнізон і ўвогуле добра ўмацаваў горад. Больш таго, аблозе перашкаджала надыходзячая зіма. Многія, абцяжараныя здабычай, пачалі вяртацца дамоў, палічыўшы, што яны ўжо дастаткова пававалі.

Разграміўшы маскоўскіх ваяводаў пад Воршай, князь Астрожскі абараніў суверэнітэт сваёй Айчыны. Пра слаўную перамогу даведалася ўся Эўропа. Аршанская бітва ўвайшла ў эўрапейскія хрэстаматыі ваеннай гісторыі як узор удалай тактыкі змаганьня з намнога перасяжнымі сіламі ворага, як прыклад вырашальнага ўплыву таленту і майстэрства вайсковага начальніка на вынік бataліі. Вось толькі нашчадкі пераможцаў той бітвы сёньня схільныя сьвяткаваць міфічнае сьвята 23 лютага, а не дзень вайсковай славы ўласнага народу. Дык што, дарэмна ваявалі пад Оршай?

**Вітаўт РУДНІК.**

# ЯК «РЫТМ» ЗЬБІЛІ З РЫТМУ

**(Заканьчэньне. Пачатак на 1-й старонцы.)**

Як распавяла нам сп.Ала Грэсь (галоўны трэнер каманды), 25 жніўня каманда накіравалася на аўтобусе хакейнага клуба «Нёман» у горад Бра для ўдзелу ў традыцыйным турніры «Мемарыял Мадзіні». Гэтае спаборніцтва аднесена да вышэйшай катэгорыі «А» і для ўдзелу ў ім запрашаюцца мацнейшыя клубы Эўропы. У гэтым годзе ў Бра былі запрошаны 12 жаночых каманд, бясспрэчным фаварытам сярод якіх лічыўся «Рытм» - трохразовы ўладальнік галоўнага трафея турніра.

Пераадолеўшы тысячы кіламетраў па эўрапейскіх дарогах, гарадзенскія хакеісткі нечакана былі затрыманыя на вугорска-славенскай мяжы. Славенскія памежнікі атрымалі факс з Міністэрства замежных справаў Італіі, у якім паведамлялася пра тое, што без дазволу міністэрства транспарту Італіі праезд беларускіх транспартных сродкаў праз славенска-італьянскую мяжу забаронены. Нягледзячы на ўсе намаганьні арганізатараў турніра і «Рытма», у экстраным парадку атрымаць дазвол з міністэрства транспарту Італіі не ўдалося. Тым часам скончыўся тэрмін, адведзены на перасячэньне мяжы. У якасьці выйсьця з сітуацыі можна было перасесьці на славенскі аўтобус і спакойна ехаць далей, як гэта робяць кліенты беларускіх турыстычных фірмаў. Але на гэта спатрэбілася б каля 2 тысячаў долараў, якіх, зразумела, не было. Вось і прыйшлося паварочваць назад.

Вярнуўшыся ў Горадню, кіраўніцтва «Рытма» зьвярнулася за тлумачэньнямі ў нашае Міністэрства замежных спраў. Там разьвялі рукамі і накіравалі ў міністэрства транспарту. Там высьвятлілася, што італьянцы запалілі «чырвонае сьвятло» таму, што Беларусь ўвяла падатак за праезд замежнага транспарту па сваёй тэрыторыі і пры гэтым не заключыла адпаведныя пагадненьні з іншымі дзяржавамі. Дзіўным выглядае тое, што пра ўсё гэта беларускае МЗС не папярэдзіла кіраўніцтва «Рытму», калі тое афармляла дакументы на паездку. Калі ў міністэрстве ня ведалі пра магчымыя перашкоды на мяжы, то навошта нам такое міністэрства, якое не абараняе інтарэсы сваіх грамадзян з-за сваёй некампетэнтнасьці? Калі ж ведалі, але спраўна ўзялі за кожнага чалавека па 25 долараў - то хто за гэта адкажа і, галоўнае, верне назад грошы? Пакуль што чыноўнікі робяць выгляд, што ва ўсім вінаваты сам «Рытм» і вяртаць грошы не зьбіраюцца. Ім, безумоўна, усё роўна, што сёньня кожная капейка на спорт здабываецца вялізнымі высілкамі, што кампенсаваць спаленыя марна на дарогу грошы будзе надзвычай цяжка, што спарцмэнкі выбіліся з графіку падрыхтоўкі да сезона і атрымалі вялізную маральную траўму, што пад сумнеў пастаўлена добрае імя каманды, якая ня раз і ня два прыносіла славу Беларусі.

Дык да якога ж часу кожны з нас будзе залежаць не ад закона, а ад добрай волі чыноўніка?

**Вітаўт РУДНІК.**

# ДНІ ІГНАТА ДАМЕЙКІ Ў ЛІДЗЕ

**З 31 жніўня па 2 верасьня ў Лідзе прайшлі дні ўшанаваньня памяці славутага навукоўца, падарожніка і вялікага патрыёта нашай зямлі Ігната Дамейкі.**

31 жніўня ўраджэнка Ліды Ірэна Стасевіч-Ясюкова, старшыня Камітэту гісторыі навукі і тэхнікі Польскай Акадэміі навук адкрыла міжнародную канферэнцыю, прысьвечаную выдатным дзеячам навукі і культуры, чыё жыцьцё так ці інакш было зьвязана з Лідай. Сьпецыяльна да гэтай канферэнцыі Польская Акадэмія навук і Таварыства польскай культуры на Лідчыне выдалі кнігу пра нашага славутага земляка на польскай і беларускай мовах. Акрамя Дамейкі, у рэфератах выступоўцаў знайшлі адлюстраваньне жыцьцяпісы Тадэвуша Гарэцкага, Казіміра Нарбута ды інш.

*Ігнат ДАМЕЙКА*

1 верасьня ўдзельнікі дзён наведалі в.Крупава і Запольле. У Крупаве віцэ-консул Польшчы ў Горадні Богдан Разальскі і намесьнік старшыні лідзкага райвыканкаму Іван Гушча адкрылі школьны музей Ігната Дамейкі. Віцэ-консул спрэзентаваў музею выдатны партрэт Ігната Дамейкі работы гарадзенскага мастака Станіслава Кічкі. Вуліца «Лідзкая» вёскі Крупава стала вуліцай Ігната Дамейкі.

На скрыжаваньні дарог каля былога маёнтка Запольле, дзе Ігнат Дамейка жыў і працаваў з 1802 па 1832 год, быў адкрыты памятны знак з подпісамі на беларускай і польскай мовах. Знак адкрылі віцэ-консул Разальскі і намесьнік старшыні райвыканкаму Зыгмунт Чапля. Асьвяціў знак ксёндз Юзаф са Слабады.

Удзельнікі дзён наведалі і падмуркі былога маёнтка Дамейкаў. Маёнтак перастаяў паўстаньні 1831 і 1863 гадоў, Першую сусьветную вайну, рэвалюцыі і Грамадзянскую вайну, Айчынную вайну, ды не ўцалеў ад бальшавіцкіх манкуртаў і быў зьнесены ў 50-я гады.

Група ўдзельнікаў наведала і месца пахаваньня Казіміра Нарбута ў в.Радзівонішкі. Але тут іх чакала яшчэ большае расчараваньне. На месцы рэштка́ў былога вуніяцкага касьцёла, пад алтаром якога быў пахаваны Казімір, адзін з бальшавіцкіх начальнікаў проста зрабіў пограб. Людзі сабралі выкінутыя экскаватарам косьці і прыкапалі дзесьці недалёка. Шукайце зараз, навукоўцы, магілу заснавальніка лідзкага касьцёла піяраў, аўтара першага падручніка «Логікс», перакладчыка працаў Фрыдрыха Вялікага. Гадоў 20 таму быў разабраны і дом Нарбутаў у Радзівонішках.

Не абыйшлося і без традыцыйнай лыжкі дзёгцю. За некалькі гадзін да пачатку вечарыны, наладжанай Таварыствам польскай культуры на Лідчыне, лідзкія гарадзкія ўлады забаранілі яе правядзеньне ў будынку 11-й школы, саслаўшыся на нейкі загад. Давялося арганізатарам тэрмінова пакідаць «гасьцінную» Ліду і перабірацца ў іншы населены пункт. Ды няма ліха без дабра. Вечарына ўдалася на славу. Асабліва парадаваў усіх ансамбль народнай музыкі «Гудзкія гармонікі».

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# МІНУС ДЗЕСЯЦЬ...

**Падзеяй тыдня ў спартыўным жыцьці горада стала гульня на Кубак Корача паміж баскетбалістамі гарадзенскага «Гродна-93» і клуба «Сталь Бобрэк» з польскага горада Бытам.**

Баскетбалісты з Горадні зьяўляюцца адзінымі прадстаўнікамі нашай краіны ў Эўракубках і таму невялікая зала на вуліцы Гагарына не зьмяшчала ўсіх жадаючых убачыць сустрэчу. А паглядзець было на што, бо ў госьці да нас завітаў адзін з мацнейшых і багацейшых клубаў Польшчы, у складзе якога гуляюць 4 гульцы нацыянальнай і маладзёжнай зборных суседняй краіны і два цёмнаскурыя амерыканцы.

Першыя два ачкі ў сустрэчы былі на рахунку нашага Уладзіміра Шарко. У першай палове гульні перавага гойдаецца як на арэлях ў бок то адной, то другой каманды. У гасьцей на пляцоўцы саліраваў Джозэф Дохерці, праз якога ішлі амаль усе атакі палякаў, якія ў канцоўцы першага тайма былі крыху больш удалымі, што і засьведчыў лік 40:37 на іх карысьць.

На пачатку другой паловы гульні намаганьнямі гульца зборнай Беларусі Аляксея Альшэўскага нашыя баскетбалісты выходзяць наперад 59:54. Аднак гэта быў апошні іх посьпех. Ня маючы паўнавартаснай замены першай пяцёрцы, каманда «падсела» фізічна. І вось ужо літаральна топчуць нашую абарону вялічэзныя гульцы зборнай Польшчы Адам Войцік і Марыюш Бацік, выйграе свой і чужы шчыт Джэффры Штэрн, выдатна распасоўвае Дохерці і фінальны сьвісток фіксуе перамогу польскіх «баброў» з лікам 83:73. Лепшымі гульцамі сустрэчы былі прызнаныя Марыюш Бацік і Уладзімір Шарко. Адказная сустрэча - праз тыдзень ў Бытаме. Але шанцаў на тое, каб праўваць «сталёвую» плацыну тамтэйшых «баброў» і выйсьці ў наступны этап Кубка ў нашых баскетбалістаў вельмі мала.

**Р.В.**

# НЯМА ХАРАКТАРУ?

**Гульні любых кубкавых турніраў маюць свой, надзвычай прывабны для заўзятараў падтэкст. У гэтых сустрэчах правяраецца характар, няма месца кампрамісу - слабейшы вымушаны саступіць дарогу мацнейшаму.**

На жаль, у васьмёрку каманд, якая працягвае барацьбу за Кубак Беларусі па футболе ня трапілі каманды Гарадзеншчыны. «Хімвалакно», як і чакалася, буйна саступіла цяперашняму ўладальніку Кубка «Дынама-93» з лікам 1:7 (гол прэстыжу на рахунку экс-нёманца Ігара Петрашэвіча). «Кардан Флаерс» на два галы салігорскага «Шахцёра» змог адказаць толькі голам Сяргея Саладоўнікава, а слонімскі КПФ прыкра саступіў на сваім полі барысаўскаму «Фамальгаўту» 1:4 (адзіны гол на рахунку Татарашвілі).

Прыйшоўшыя на гульні чарговага тура турніра каманд II лігі заўзятары спадзяваліся, што нашыя клубы паспрабуюць рэабілітаваць сябе ў вачах сваіх прыхільнікаў. Аднак гэта ўдалося толькі слонімцам, якія перамаглі з лікам 3:1 «Дынама-Юні». З такім жа лікам, але на карысьць гаспадароў поля, скончылася гульня ў Магілёве, дзе «Трансмаш» прымаў «Хімвалакно». Цэнтральным жа матчам тура стала гульня паміж лідарам II лігі, нашым «Кардан Флаерс» і пінскім «Камунальнікам». Сустрэча праходзіла на мокрым, коўзкім полі, якое пазбавіла гарадзенцаў перавагі ў тэхніцы. Госьці, да таго ж, абралі вельмі эфектыўную тактыку гульні на контратаках, тры з якіх у першым тайме прынесьлі посьпех. «Карданы», не чакаўшыя такога ходу падзей, дзейнічалі занадта нервова. Сьведчаньнем гэтага стаў нерэалізаваны Юрыям Мазурчыкам пенальці. Аднак да перапынку адзін гол у вароты «Камунальніка» быў забіты. Навес Уладзіміра Касюка галавой замкнуў Сяргей Саладоўнікаў. У другім тайме гарадзенец Сяргей Кароза забіў яшчэ адзін мяч, але яго не хапіла нават для таго, каб узяць у гэтай сустрэчы хоць ачко. Такім чынам, «КФ» прайграў другую запар гульню ў чэмпіянаце і саступіў першы радок у турнірнай табліцы. Назаўсёды?

* * *

6-га верасьня ў адборачнай сустрэчы чэмпіяната Эўропы па футболе зборная Беларусі ў Ратэрдаме саступіла з лікам 0:1 галандцам.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**



### У сьвеце цікавага

# ЧОРНЫЯ ДНІ

Яшчэ ў эпоху палеаліту наш прашчур прыкмеціў, што ў адзін дзень усё ў яго ідзе гладка, як па масьле, а ў другі - усё валіцца з рук. Але да прызнаньня такіх дзён ракавымі (чорнымі) было яшчэ далёка.

Здавалася, што гэтыя фатальныя чорныя дні павінны былі быць для кожнага чалавека свае. Аднак мудрацы старажытнага Усходу, якія кіраваліся месяцавым (лунным) календаром, а таксама эгіпцяне, жыцьцё якіх падпарадкавана сонечнаму календару, прыйшлі да высновы, што існуюць спрыяльныя і неспрыяльныя дні, адны і тыя ж для ўсіх людзей. Яны сьцьвярджалі, што посьпех ці няўдача дня залежаць ад знаходжаньня Сонца ці Месяца адносна да Зямлі.

Аб дабратворным уплыве Сонца на наша самаадчуваньне, а значыць і на посьпех нашых пачынаньняў пераконваліся мы ня раз. А вось на Месяц не зьвярталі ўвагі. З вялікім зьдзіўленьнем даведваемся са старадрукаў, што Месяц у гэтых справах значна важней, чым Сонца. Паміж тым, ці вісіць ён залатым сярпом ці круглым блінам, і значнасьцю асобных дзён месяца, нават гадзін існуе вельмі цесная сувязь.

Найчарнейшымі днямі года - гэта пацьвярджаюць усе крыніцы -стагоддзямі лічыліся 1 красавіка, калі нарадзіўся Іуда Іскарыёт, 1 жніўня - калі Каін забіў Авеля, а таксама 1 сьнежня, калі Садом і Гамора, два гарады ў Палясьціне, шырока вядомыя амаральнасьцю сваіх жыхароў, былі зьнішчаны землятрусам.

Не такімі страшнымі, але такімі ж няшчаснымі для нараджэньня зьяўляюцца, між іншым, два дні кожнага месяца. У працы пад назваю «42 няшчасьлівыя дні ў годзе, якія нейкі грэцкі аўтар яго Эгіпецкай Царскай Вялікасьці адкрыў і якія досьвед прызнаў веравгоднымі» зьмешчаны іх сьпіс. Так, у студзені нешчасьлівымі названы лічбы: 1,2,6,11,17,18; у лютым - 8,16,17; у сакавіку - 1,12,13,15; у красавіку - 1,13,15,17,18; у траўні - 8,10,13,17,30; у чэрвені -1,17; у ліпені 15,16; у жніўні - 1,3,18,20; у верасьні 15,28,29; у кастрычніку - 15,17, у лістападзе - 11,17; у сьнежні 1,7,11.

Днём, які ва ўсіх каляндарах лічыўся фатальным, была пятніца.

А што ж з панядзелкам? Для гэтае пары яшчэ многія не пачынаюць у панядзелак ніякай важнай справы, не адпраўляюцца ў паездку, нічога нікому не пазычаюць. Нават нязначныя страты ў гэты дзень лічаць кепскім прагнозам на ўвесь тыдзень. І наадварот, камплімент, атрыманы ў панядзелак, цэніцца больш, чым у іншыя дні. Чых у панядзелак усьпрымаецца, як чаканьне падарунка ці жаданага сюрпрыза.

Прызнаньне панядзелка асаблівым днём прыйшло з сярэднявечча і зьвязана з пэўнымі дзеяньнямі царквы. Каб прыпыніць у некаторыя дні частыя ў тыя часы разбойніцкія напады, царква пужала праклёнцам тых, хто ад заходу ў сераду да ўсходу сонца ў панядзелак дазволіць сабе насільле ці крывапраліцьцё. Таму панядзелак быў чакаемым разбойнікамі днём, калі пасьля пакутлівага дня іх перапынку ужо можна было зарабляць разбоем.

Абачлівыя людзі не адпраўляліся ў гэты дзень у паездкі, не наладжвалі гандлёвых зьдзелак, асьцерагаліся пазык, сядзелі, як мыш пад мятлою. І кожную ўсьмешку лёсу ў панядзелак лічылі вялікай нечаканасьцю і, як падзею незвычайную, дабратворным прадвесьцем на ўвесь тыдзень.

Мінулі стагоддзі, а панядзелкавыя забабоны засталіся ў некаторых да гэтае пары.

**Паводле матэрыялаў замежнага друку падрыхтаваў Пятро ЖЭБРАК.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### АДЗІН СУПРАЦЬ ТРАІХ

Позьнім вечарам двое малайцоў падазрона «церліся» каля камерцыйнага шапіка па вуліцы Урублеўскага. І той, трэці, што аглядваючыся стаяў на цёмнай вуліцы, пэўна быў з іх кампапніі - яўна стаяў «на шухеры».

«Якія цяжкасьці? Выпіць ахвота?» - супрацоўнік міліцыі А.Барысік, які быў у адпачынку, наблізіўся да парачкі. У аднаго з іх за поясам прыкметна тырчэла масіўная рукаятка.

«Правальвай, мужык, бо...» Фраза абарвалася на паўслове, бо гаварун войкнуў і плюхнуўся на мокры асфальт, а імгненьнем раней туды ж, бразнуўшы металам, паляцеў і выбіты з яго рук абрэз.

Другі налётчык, які «не дагнаў» сітуацыю, пачаў пагражаць сяржанту: «Мужык, аддай абрэз!» Але - чарговы прыём і гэты «гопстопнік» таксама апыўнуся на зямлі. Калі падасьпеў той трэці, то і яго чакаў такі ж лёс - вільготны асфальт.

### МЫ ПА АБ'ЯВЕ...

Менавіта з такімі словамі трое «муджахедаў» пераступілі парог кватэры навучэнкі хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. Пасьля гэтага злачынцы адразу ж надзелі гаспадыні наручнікі і, пагражаючы пісталетам, патрабавалі ў пацярпелай каштоўнасьці, прыгатаваныя для продажу. Сьпіс украдзенай маёмасьці ўражвае: 12 залатых ланцужкоў, 8 залатых бранзалетаў, каля 30 шлюбных пярсьцёнкаў, 15 пар залатых завушніц і яшчэ некалькі адзінак каштоўнасьцей.

Відавочна, што рэкламныя аб'явы чытаюць ня толькі патэнцыяльныя пакупнікі... Нездарма ў блатным жаргоне вельмі папулярная прымаўка: «Усё тваё і Ваша - заўсёды было маё і наша».

### ТРАГЕДЫЯ НА КАЛГАСНЫМ ПОЛІ

З набліжэньнем уборкі «другога хлеба» усё часьцей, звычайна ноччу, здараюцца выпадкі датэрміновай копкі бульбы. Адна з падобных спроб закончылася трагічна.

Ноччу на полі, недалёка ад Скідаля, двое вяскоўцаў заўважылі здабытчыкаў калгаснай бульбы. «Рупліўцаў» было таксама двое. Падчас высьвятленьня адносін адзін са злодзеяў выхапіў нож... У выніку абодва селяніна атрымалі колата-рэзаныя раны, ад якіх 20-гадовы трактарыст калгаса «Скідальскі» праз паўгадзіны памёр у бальніцы.

### ВЫБУХ НА СЬВІТАНКУ

У пяць гадзін раніцы няўстаноўленая выбухная прылада спрацавала ў прыбудоўцы дома начальніка Воранаўскай мытні. На шчасьце, пацярпелых няма - пашкоджаны толькі цагляная сьцяна, ваконная рама і выбіта шкло.

### ПАКІНУЎ ПОСТ

Раніцай 4 верасьня з паста Гарадзенскага памежнага атрада каля вёскі Глушнева пайшоў шэраговец Ю. За сьпіной у памежніка «Калашнікаў» з поўным ражком патронаў.

**У.ДАНІЛОВІЧ.**

ПАГОНЯ
Рэдактар МІКОЛА МАРКЕВІЧ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА"
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: (0152) 45-29-96, 45-41-83
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
BBS "FREESPACE" 0152-453-714
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Заказ 3692
Наклад 8936 паасобнікаў.
Нумар падпісаны да друку 07.09.95, у 16.00